ДА 60-ГОДДЗЯ МАКСІМА ТАНКА



Ніва
ТЫДНЁВІК ГПБГКТ
№ 38 (364) ГОД XVII БЕЛАСТОК 17 ВЕРАСНЯ 1972 г. ЦАНА 60 гр.

# Паэт і змагар

Гэты стройны юнак з лышным светлым чубам і васільковым блакітам у вачах, уражлівы і задуменны, свае першыя вершы не складаў для каханай і не было ў іх месца любоўнаму шопату. Паэтычную творчасць Яўген Скурко — будучы слаўны Максім Танк — разумеў як зброю, і ў яго «бунтарных напевах» чуўся скрыгат кайданаў, якімі акавалі санацыйныя ўладары колішнія «крэсы всходне» — бядняцкую Заходнюю Беларусь, дзе сяляне часта запалку дзялілі на чатыры часткі, а маладзіцы насілі туфлі загорнутымі ў кужэльную хусцінку, каб абуваць іх толькі ў царкоўным прытворы ці ўваходзячы на галоўную вуліцу мястэчка.

Будучы паэт нарадзіўся 17 верасня 1912 года ў вёсцы Пількаўшчына на Мядзельшчыне ў сялянскай сям'і і з немаўляцтва яму быў суджаны цярністы шлях жыхара Заходняй Беларусі. Загорнутагата ў хустку-канаплянку павезла яго матка-салдатка ў гаротнае бежанства ў 1915 годзе. Знайшла разам з дзіцём прытулак у Маскве. А калі ўлеглася крывавая бойня на франтах першай сусветнай вайны, перамагла Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя і суцішыліся змаганні Грамадзянскай вайны ды бацька шчасліва вярнуўся з фронту — сям'я падалася ў 1922 годзе на сваю родную Мядзельшчыну. Тут бацькі, не пакладаючы рук, стараліся абсеяць зарослыя за вайну хмызняком загоны, паставіць на ногі знішчаную гаспадарку і ў той жа час, адымаючы сабе ад вуснаў, накіравалі Яўгена вучыцца. Выбралі сыну школу самую блізкую свайму сэрцу — беларускую гімназію ў Радашковічах.

Чароўны свет ведаў захапіў хлопца, але не здолеў засланіць ад яго несправядлівасцей, якія панавалі на роднай зямлі, і ён хутка знаходзіць дарогу ў падпольны Саюз камуністычнай моладзі Заходняй Беларусі. Я. Скурко ўдзельнічае ў вучнёўскай забастоўцы і яго выдаляюць з гімназіі. Не затрымаўся ён доўга і ў беларускай гімназіі ў Вільні, дзе таксама ўдзельнічаў у падпольным маладзёжным руху. Сваю сярэднюю адукацыю давялося Я.

(Працяг на стар. 3)

# Калі смерць забірае гаспадара

ЗДАРЫЛАСЯ Ў КЛЕЙНІКАХ

Быў парны, знясільваючы жнівеньскі дзень. У паветры пахла бурай.

Пад сцяною даволі акуратнай вясковай хаты, бы курыца, капалася ў нагрэтым пясочку маленькае дзіцянё. Быў гэта хлопчык. Побач сядзеў яго старэйшы брат і з цікаўнасцю ўзіраўся, як той з яўнай асалодай голай пупай выціскае ямкі ў пяску.

Відаць, толькі што падсілкаваліся абодва нечым салодкім, бо мухі хмарамі бзычалі над імі і цалавалі іх запэцканыя шчокі.

— Дзе ваша мама? — запытаў я іх.

— Пшаніцу з дзядзькам Сцяпанам на загуменні косіць, — адказаў старэйшы.

— Ці мог бы ты мяне завесці туды?

— А чаму ж не? Пэўна, што магу!

— А вам чаго да яе? — пачуў я жаночы голас, які далятаў з сярэдзіны хаты. Я адказаў, што прыехаў з рэдакцыі беларускай газеты і маю справу да Баўтручуковай Надзі.

— Ой, то добра, што вы з рэдакцыі! — усклікнуў той жа самы жаночы голас. — Можа дапаможаце ў нашай бядзе... Янушэк, чуэш, ты хутчэй завядзі гэтага пана да мамы.

Па дарозе Янушэк высвятліў мне, што я гаварыў з яго цёткаю, мамінай роднай сястрой, якая інвалідка і зусім не можа хадзіць.

На загуменні нейкі мужчына, гадоў пад пяцьдзесят, прывычнымі, ад юнацтва завучанымі рухамі наступаў на сцяну спелай пшаніцы. Дзве жанчыны крочылі яго следам. Малодшая падбірала, а старэйшая вязала і састаўляла снапы. Я адразу дадумаўся, што Надзяй Баўтручук будзе гэтая малодшая. Яна нам пісала:

*„Я жыву ў вёсцы і апрацоўваю гаспадарку. Я вельмі люблю работу на полі і пры жывёліне. Але ў гэтым годзе памёр мой муж, і я засталася адна з двума дзяцьмі і цёшчай — старушкай, якой 76 гадоў. Крыху дапамагаюць мне суседзі і з кулка рольнага таксама маю падтрымку. Але і так прыходзіцца наймаць чужых людзей да цяжкай работы, каб пасеялі, зааралі і скасілі, бо што ж я, баба, слабая... А гэта вельмі вялікі выдатак на грошы. А яшчэ ў мінулым годзе выаралі ў нас і засеялі чатыры га лугу, а ў гэтым годзе рабілі дрэнацыю на полі. За ўсё гэтае трэба дорага плаціць. А тут мужык яшчэ набраў у банку*

Працяг на стар. 4

ДА VII З'ЕЗДУ БГКТ

# Размова па шчырасці



Хутка бяжыць час, хутка праімчалася чарговая шостая кадэнцыя Галоўнага праўлення грамадска-культурнага таварыства. І вось наблізіўся з'езд БГКТ. Ацэніць ён дзейнасць ГП, дзейнасць паасобных аддзелаў, паасобных нашых звенняў, да якіх, на маю думку, перш за ўсё трэба залічыць орган ГП «Ніву», эстраду «Лявоніху» і мастацкія калектывы. У перадз'ездаўскай дыскусіі мне як дэлегату на VII з'езд БГКТ хочацца выказаць свае думкі, сваю асабістую ацэнку мінулай кадэнцыі ГП. Была яна даволі плённая, даволі імпульсіўная. Было праўлена шэраг цікавых ініцыятыў, шэраг патрэбных пачынанняў, амаль у кожнай галіне. Маю тут на ўвазе конкурсы на беларускія песні, імкненне да стварэння харавых і тэатральных калектываў, клопаты ў напрамку развіцця беларускага школьніцтва, а таксама развіцця існуючага Беларускага рэгіянальнага этнаграфічнага музея ў Белавежы, больш эфектыўную працу ў выдавецкай дзейнасці і г.д. Адным словам, зроблена многа, зроблена больш, як у папярэдніх кадэнцыях ГП. Усё гэта праўда. Але ці не можна было зрабіць яшчэ больш?

Мне здаецца, занядбана адна вельмі важная галіна працы, якою Галоўнае праўленне павінна заняцца. З'ўляецца ёю прапагандысцка - выхаваўчая дзейнасць, мэтай якой павінна быць абуджэнне нацыянальнай свядомасці, нацыянальнай гордасці, пашану да сваёй роднай мовы, гісторыі, культуры. З гэтым у нас на ёсць добра. Спатыкаемся мы з такімі фактамі, як неахвота некаторых бацькоў у некаторых мясцовасцях пасылаць сваіх дзяцей на навучанне сваёй роднай мовы, утойванне сваёй нацыянальнасці, сарамлівасць да яе.

Асабліва ў гарадах такіх шмат. Зразумела, гэта людзі або слабыя, або людзі, якія не мелі магчымасці, не мелі дзе і калі даведацца аб нашай слаўнай, добрай, працавітай нацыянальнасці, якая, між іншым, адыграла таксама немалую ролю ў станаўленні народнай улады на Беласточчыне. І вось тут я бачу выхаваўчую ролю нашай арганізацыі. Мне здаецца, трэба больш гава-

Працяг на стар. 4




ПЕРАПІС НАСЕЛЬНІЦТВА

Неабходна ў інструкцыі
Арганізацыі Аб'яднаных Нацый
Аб перапісе насельніцтва Зямлі
Удакладніць —
Каго лічыць Чалавекам.
Бо мы —
Хто знае цяжар
Плуга і вінтоўкі,
Расстанняў і страт беззваротных —
Ніколі не згодзімся
Заносіць у спіс тых нелюдзяў,
Каго праклінаюць
Маткі, сіраты
І зямля
Сваімі магіламі
І папянішчамі.

*Максім Танк*



*Сямяціцкі пейзаж.* *Фота Я. Цялушэцкага*

# КАБ НЕ БЫЎ СТРАШНЫ ЖАХ ПАЖАРАЎ

У нашай краіне больш чымсьці палавіна пажараў узнікае на вёсцы. У Беластоцкім ваяводстве толькі ў мінулым годзе выбухла 1.208 пажараў, якія сталіся прычынаю страт на суму каля 68 мільёнаў злотых. Гараць найчасцей жылыя і інвентарскія будынкі. У мінулым годзе ў нашым ваяводстве згарэла іх цалкам або часткова паўтары тысячы. Такой вялікай колькасці пажараў не было ў нашым ваяводстве ў мінулыя пасляваенныя гады. Найбольш пажараў узнікла ў мінулым годзе ў Беластоцкім, Аўгустоўскім, Граеўскім і Кольненскім паветах. На працягу першага паўгоддзя г. г. выбухла 516 пажараў, якія прычыніліся да страт на суму 34 мільёнаў зл. Цалкам або часткова згарэла 687 будынкаў. Для прыкладу, толькі ў Беластоцкім павеце ўзнік 41 пажар, а ў Гайнаўскім — 32. Вялікі пажар выбух у Вілянове, Сямяціцкага павету. Згарэла ў ім 48 будынкаў, а страты склалі больш мільёна злотых.

Галоўнымі прычынамі пажару з'яўляюцца перш за ўсё: неасцярожнасць дарослых асоб, дзіравыя каміны і печы, кепска падключанае электрычнае абсталяванне, саламяныя стрэхі, цесная забудова, недастатковае забеспячэнне вадою і гэтак далей. Зараз на Беласточчыне больш трыста вёсак не мае вады да тушэння пажараў, а больш двух тысяч вёсак мае яе ў недастатковых колькасцях. Пажар у такой вёсцы — гэта страшная стыхія. Абазначаць гэта можа знішчэнне набытку не толькі гадоў, але і некалькіх пакаленняў.

У час сушы вельмі падатлівым на пажары з'яўляецца Гайнаўскі павет, у якім 40% цэлай паверхні павету гэта лясы.

Апрача таго, дзе як дзе, але тут шмат яшчэ будынкаў пакрытых саломай.

З пажарамі змагаюцца пажарнікі. Зараз на Беласточчыне маем 1165 добраахвотных супрацьпажарных каманд (ОСП), якія згуртоўваюць больш 25 тысяч членаў. Дзейнічае тут 267 зматарызаваных часцей ОСП. Да канца гэтай пяцігодкі будзе зматарызаваных ужо 373 супрацьпажарныя каманды. Апрача таго 500 вясковых супрацьпажарных камандаў па-ранейшаму будзе вазіць матапомпы коннымі фурманкамі. Маем многа вельмі актыўных і ахвярных пажарнікаў. Пакарылі яны сотні расшалелых агнявых навальніц у вёсках і ў лесе. Дзякуючы іх ахвярнасці ўдаецца зберагчы людское дабро калі не цалкам дык часткова.

Іншая дзялянка дзейнасці ОСП — гэта пабудова грамадскім чынам стражацкіх рамізаў — даволі часта адзіных цэнтраў культуры на вёсцы. У мінулым годзе ў нашым ваяводстве былі перададзены ў карыстанне 24 такія рамізы, а ў гэтым годзе будуецца іх два разы столькі.

Важным элементам дзейнасці ОСП з'яўляецца папулярызацыя супрацьпажарнай аховы, супрацьпажарныя кантролі ў сялянскіх сялібах, а таксама супрацоўніцтва з грамадскімі і маладзёжнымі арганізацыямі.

Дзякуючы такім напрамкам дзейнасці ОСП, а таксама лепшаму разуменню грамадства аб неабходнасці асцярожнага карыстання з агню, жах пажараў становіцца менш страшны.

(ця)



# ФАЛЬКЛОР

## СЯМЕЙНАЯ

ГО – РЫШ-КУ, ГО-РЫШ-КУ, ГО – РЫШ-КУ СЭР-ДЭНЬ-КО. ЛЮ – БЫВ КО-ЗАК ДІЎ-КУ ШЧЭ Й ПО-
КЫ-НУ-ТЫ МУ-СІЎ.-ОЙ, БО – ЛІТ ЖЭ МНІ СЭР-ДЭНЬ-КО. ЛЮ-. -ЛІТ ЖЭ МНІ СЭР-ДЭНЬ-КО.

*Горышку, горышку, горышку-сэрдэнько.*
*Любыў козак дійку, шчэ й покынуты мусіў;*
*— Ой, боліт жэ мні сэрдэнько!*
*Любыў козак дійку, шчэ й покынуты мусіў,*
*Ой, боліт жэ мні сэрдэнько.*
*Прыхожу до сыны, вычэра трысыт*,*
*А моя мылая, шчэ й чорнобрывая*
*Вычэраты не сядае.*
*А моя мылая, шчэ й чорнобрывая*
*Вычэраты ны сядае.*
*Вычэраты ны сядае, дрыбны лысты пышэ,*
*З буйным вітрам розмовляе.*
*Дрыбны лысты пышэ, дытыну колышэ,*
*З буйным вітрам розмовляе:*
*— Ны дуй, буйны вітрэ, на мою свэтлыцю —*
*Свэтлыця новая, дытына малая,*
*Я шчэ сама молодая.*

Ад Івана Ляшчынскага, 1906 года нараджэння, вёска Чарэмха Гайнаўскі павет, запісаў 17 мая 1972 г. Мікалай Гайдук. З магнетафоннай стужкі нотны запіс зрабіў Сяргей Лукашук

* Слова вельмі невыразнае — МГ.

# Прагулка па Гайнаўцы



Да вайны і шмат год пасля яе Гайнаўка была выключна драўлянай. Нават такія домікі, як тыя, што засталіся на вуліцы Элізы Ажэшка (на здымку), не часта можна было сустрэцьу рабочых кварталах. Гайнаўскі пралетарый будаваў сабе домік з дошак, між якімі напіхаў апілкі. Яшчэ датэтуль у 180 такіх «беда-кватэрах» застаецца каля тысячы гайнаўчан. Гарадскія ўлады рашылі разваліць гэтыя «трацінякі», а іх кватарантаў перасяліць у блокі.



Цяпер у мураваным высокім шматпавярховым жылым будаўніцтве жыве ў Гайнаўцы каля чатырох тысяч жыхароў. Першыя два мураваныя дамы паявіліся тут у 1953 годзе. Яны былі падобныя да гэтага двухпавярховага блоку, які мы бачым (справа) на гэтым здымку.



Гайнаўка разрастаецца. У апошнія гады дрэваапрацоўчы камбінат павялічыўся на два новыя аддзяленні: мэблевую фабрыку і прадпрыемства па вырабу стружкавых пліт. Дык рабочыя і спецыялісты, якіх тут усё больш, патрабуюць памяшканняў. У мінулым годзе 60 сем'яў рабочых дрэваапрацоўчага камбіната пасялілася ў новыя кватэры. Да жылога будаўніцтва далучылася таксама хімічная фабрыка. Разам гайнаўскія прамысловыя прадпрыемствы абавязаліся пабудаваць у гэтай пяцігодцы 200 новых кватэр. Да гэтага 120 жылых кватэр дакіне яшчэ гарадская адміністрацыя.



Ян Харкевіч — адзін з найбольш заслужаных будаўнікоў мураванай Гайнаўкі.Ён працуе пры яе пабудове ад першай кватэры.

*Тэкст і фота В. Рудчыка*

хапляючыся сэнсавасцю і прыгажосцю сялянскай працы Багушэвіч не ідэалізаваў жыхара вёскі. Бачыў ён і сялянскую неахайнасць, і сялянскую ляноту і сялянскае п'янства і супраць гэтых заган кіраваў вастрыё сваёй паэзіі. Багушэвіч ведаў, што галоўная прычына сялянскай нядолі знаходзіцца ў характары грамадскай сістэмы. Пры гэтым аднак ведаў, што вады і заганы ў характары і паводзінах селяніна паглыбляюць гэтую нядолю.

Значэнне Багушэвіча для развіцця беларускай літаратуры — грамаднае. Беларускі літаратурны даследчык, наш зямляк У. Казберук аб гэтым значэнні гаворыць наступнае: «Багушэвіч аказаў вялікі ўплыў на ўсё далейшае развіццё беларускай літаратуры. Такія асноўныя асаблівасці яе, як зацікаўленне жыццём, лёсам і думкамі беларускага селяніна, імкненне адлюстраваць рост яго сацыяльнай і грамадскай свядомасці, народнасць і дэмакратызм, вызначыліся з усёй выразнасцю ў паэзіі Багушэвіча. Купалаўскі лірызм і экспрэсія, Коласаўская эпічнасць і апавядальнасць, публіцыстычная страснасць і рэвалюцыйная народнасць Цёткі свімі вытокамі ўзыходзяць да паэзіі Багушэвіча» (Гісторыя беларускай дакастрычніцкай літаратуры, Мінск, 1969 г. т. II, стар. 150).

# БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку, вуліца Кілінскага 10, можна набыць *наступныя* кнігі на беларускай мове:

М а ш а р а Міхась, Вершы, 1971, 416 стар., цана 14,90 зл.

Аднатомнік вершаў Міхася Машары — вядомага паэта і ўдзельніка рэвалюцыйнага руху ў міжваенны час у Заходняй Беларусі — складаюць лепшыя творы, напісаныя ім у розныя гады ў доўгім і плённым яго творчым шляху.

Пазіцыя вельмі карысная для школьных і грамадскіх бібліятэк, а таксама для ўсіх любіцеляў беларускай паэзіі.

С а м у й л ё н а к Э., Будучыня, 1970, 444 стар., цана 8 зл. 50 гр.

Гэты раман аднаго з вядучых беларускіх савецкіх пісьменнікаў міжваеннага часу быў вынікам паездкі аўтара ў 1935 годзе ў Грузію. Барацьба грузінскага народа за ўстанаўленне савецкай улады складае аснову рамана.

Гэты твор, які ў беларускай літаратуры займае адно з цэнтральных месц, павінен знайсціся як у *школьных* і грамадскіх кнігазборах, так і ў руках шырокага кола чытачоў.

К а р п а ў У., Сотая маладосць, 1971, стар. 368, цана 9 зл.

Чарговая частка тэтралогіі («Нямігі крывавыя берагі», «За годам год», «Вясення ліўні») аднаго з вядучых сучасных беларускіх празаікаў. Раман з'яўляецца і самастойным мастацкім творам. Чытач знойдзе ў ім ваеннае мінулае і мірную стваральную сучаснасць Беларусі.

Неабходная пазіцыя для грамадскіх і школьных бібліятэк і для любіцеляў беларускай прозы.

К о л а с Я., З майго летапісу, 1967, стар. 310, цана 7 зл. 10 гр.

Том складаюць выбраныя вершы класіка беларускай літаратуры. Элегантнае выданне, аздобленае густоўнай графікай мастака В. Шаранговіча.

Гэты том павінен знайсціся ў бібліятэчных зборах і на кніжных паліцах нашых чытачоў.

Л ы н ь к о ў Міхась, Міколка-паравоз, 1971, стар. 184, цана 7,60 зл.

Папулярны сярод беларускай моладзі літаратурны твор аднаго з вядучых сучасных беларускіх празаікаў.

Рэкамендуем ва ўсе грамадскія і школьныя бібліятэкі, а таксама бацькам, як падарунак для маладых чытачоў.

Багатыя каляровыя ілюстрацыі!

Кнігарня імпартных выданняў у Беластоку ахвотна высылае кнігі за паштовым залічэннем (з далучэннем фактуры). Запатрабаванні кіруйце па адрасу:

„Dom Książki", Białystok, ul. Kilińskiego 10.

(м. г.)

 

# ЛЕНІНЦЫ — 50 ГОД



*Чытальная зала бібліятэкі разлічана на 500 наведвальнікаў.*

У яе 12 абшырных чытальных залах пануе толькі мяккі шолах перагортваемых кніжных лістоў ды зрэдку пачуецца ціхі шопат працаўніка з наведвальнікам. Тут ніхто не адважваецца азвацца поўным голасам, быццам баючыся парушыць дастойны спакой звыш 4 мільёнаў 700 тысяч тамоў кніг — бясцэнных скарбаў культуры беларускага народа і іншых народаў, што з піетызмам сабраны на незлічоных стэлажах у кнігасховішчы. І няма бадай у беларускай асвеце і навуцы чалавека, які б не апынуўся сярод звыш 40 тысяч наведвальнікаў, якія штогод пераступаюць яе гасцінны парог і пазычаюць больш чым 2 мільёны тамоў літаратуры. Напэўна не паўстала ніводная дысертацыя ці навуковае даследаванне без удзелу яе кнігазбораў і сувязяў з 120 бібліятэкамі і навуковымі ўстановамі з 28 краін свету, а таксама міжбібліятэчнага абанементу, што звязвае яе з 842 бібліятэкамі СССР і БССР.

Дзяржаўнай бібліятэцы БССР імя У. І. Леніна — папулярнай сярод мінчан Ленінцы — споўнілася 15 верасня гэтага года 50 год. Роўна паўстагоддзя крапатлівай працы па выяўленню, камплектаванню і захоўванню рэдкіх выданняў, сярод якіх пачэснае месца займае першая беларуская друкаваная кніга «Біблія» Ф. Скарыны (Прага, 1517—1519), першая надрукаваная на Беласточчыне, Заблудаве, кніга «Евангелле ўчыцельнае» І. Фёдарава і П. Мсціслаўца (1568), выданні друкарні братоў Мамонічаў у Вільні з ХУІ ст., творы В. Дуніна-Марцінкевіча, нумары першай беларускай газеты «Мужыцкая праўда», якую патаемна выдаваў К. Каліноўскі на Беласточчыне, першыя творы Я. Купалы, Я. Коласа, М. Багдановіча і іншых пісьменнікаў.

Беражліва захоўваюцца зборы першых і прыжыццёвых выданняў прац К. Маркса, Ф. Энгельса, У. І. Леніна, бальшавіцкіх газет «Искра», «Вперёд», «Пролетарий», камлекты газет і часопісаў, якія выходзілі на Беларусі ў першыя гады савецкай улады.

Побач з захаваннем гэтых каштоўнасцей бібліятэка кожны год прымае каля 100 тысяч новых пазіцый, якія паступаюць у яе зборы не толькі з усяго Савецкага Саюза, але і з усіх кантынентаў зямной кулі.

Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна — гэта цэнтр ведаў аб бібліятэчнай справе ў Беларусі. Яна выдае «Летапіс друку БССР», штомесячны бюлетэнь «Новыя кнігі БССР» і гадавік «Бібліятэчная справа ў БССР». І асноўнае — абслугоўвае чытачоў не толькі выдачай для іх кніг, але і ўсебакова інфармуе, дапамагае, раіць у роўнай ступені і з аднолькавай увагай і сардэчнасцю як школьніку, так і масцітаму вучонаму.

Вялікая і шляхетная гэта місія!

А пачыналася яна вельмі скромна з прыватных кніжных збораў, ахвяраваных Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту вядомымі вучонымі Я.Ф. Карскім, М.Я. Гротам, У. І Пічэтам, М. А. Янчуком і іншымі прыхільнікамі першага ў гісторыі беларускага народа універсітэта. 15 верасня 1922 года гэтыя зборы былі ператвораны ў цэнтральнае кнігасховішча БССР, каб з 1926 года стаць Беларускай дзяржаўнай бібліятэкай. У дзесятую гадавіну яе працы, у 1932 годзе, для падкрэслення вялікіх заслуг бібліятэкі ў справе развіцця культуры, асветы і навукі ў БССР ёй было прысвоена імя У. І Леніна.

Напярэдадні вайны кніжны фонд бібліятэкі складаў звыш І мільёна 600 тысяч экземпляраў. Фашысцкія захопнікі знішчылі бібліятэчныя зборы і зруйнавалі будынак. Але беларускае савецкае грамадства з першых дзён пасля вызвалення Мінска прыступіла да адбудовы біблятэкі і скамплектавання яе кніжных збораў. Дзякуючы дапамозе бібліятэк з іншых брацкіх рэспублік СССР, ахвяраваннем грамадзян і няспынным клопатам пра набыццё рэдкіх выданняў — сёння Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна з'яўляецца самай багатай на свеце захавальніцай матэрыялаў па беларусазнаўству.

*Ігнат Снарскі*

*Фота — Э. Трыгубовіча*



*Кнігі беларускага першадрукара Ф. Скарыны.*

*У адным з кнігасховішчаў бібліятэкі.*

# А ЗАБОЙЦА ЖЫВЕ СПАКОЙНА

Адзін з чытачоў беларускай газеты «Голас Радзімы» напісаў у рэдакцыю:

«Паважаныя таварышы!

Звяртаем вашу ўвагу на тое, што ў Аўстраліі пражывае здраднік і душагуб *Сасноўскі Пётр*, 1904 года нараджэння, ураджэнец беларускага горада Горкі. У 1941—1943 гадах ён дапамагаў немцам, выдаваў партызанскія сем'і, якіх расстрэльвалі фашысты і ён сам. У 1943 годзе ён перабраўся з Беларусі ў Польшчу, дзе рабаваў і забіваў палякаў і яўрэяў. На яго руках — кроў соцен нявінных ахвяр.

Надрукуйце, калі ласка, гэта пісьмо ў газеце, каб усе землякі ў Аўстраліі ведалі, што Пётр Сасноўскі — былы злачынца і кат».

Так, не памыляўся гэты чытач, хаця і не ведаў усяго пра гітлераўскага служаку. Сапраўднае яго прозвішча не Сасноўскі, а *Дазорцаў Пётр Іванавіч*. Нарадзіўся ён не ў Горках, а ў вёсцы *Рыбкі* Дрыбінскага раёна Магілёўскай вобласці і не ў 1904, а ў 1908 годзе.

Калі фашысты ў 1941 годзе напалі на Савецкі Саюз, Дазорцаў быў студэнтам трэцяга курса Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі ў Горках. Абараняць радзіму ён не пайшоў, а схаваўшыся ў гумне, чакаў прыходу немцаў. Яны далі яму пасаду ў архіўным аддзеле магістрата. Потым за верную службу ён быў пераведзены ў палітычны аддзел нямецкай тайнай паліцыі.

У 1942 годзе Дазорцаў выдаў фашыстам патрыётаў, якія падпольна дзейнічалі на льнозаводзе ў Горках. Шэсць чалавек з іх былі павешаны, 9 — расстраляны. У здзеках над імі і ў іх знішчэнні Дазорцаў удзельнічаў разам з акупантамі.

Жывуць яшчэ людзі, якія памятаюць яго злачынствы.

— Летам 1942 года, — расказвае адна жанчына, — разам з маёй сяброўкай я пайшла ў сад на тэрыторыю горацкай акадэміі. Па дарозе мы ўбачылі, як немцы вялі 6 савецкіх грамадзян, сярод якіх быў хлопчык гадоў 12—14. Разам з немцамі быў Дазорцаў. Яны прымусілі вязняў легчы ў яме і тады іх расстралялі. Страляў і Дазорцаў...

Іншы сведка расказвае:

— Летам 1942 года Дазорцаў арыштаваў маю сястру Алену і яе мужа Савіча. Назаўтра іх павесілі. Наогул, гэты страшны чалавек быў сквапны на людскую кроў. Яшчэ да таго, як ён загубіў Алёну, восенню 1941 года ён удзельнічаў у расстрэле групы яўрэяў...

Яшчэ іншы сведка бачыў, як у 1942 годзе Дазорцаў сумесна яшчэ з адным паліцаем расстраляў жыхара горада Горкі Таптуна. Перш чым выстраліць у гэтага чалавека, Дазорцаў зняў з яго боты. Адзенне і абутак ён здымаў і з мёртвых і з жывых. Гэтакім чынам накапляў сваё цяперашняе багацце.

Аказваецца, што акупанты высока цанілі паслугі гэтага ката. Захаваўся ў архівах арыгінальны дакумент, у якім нейкі фашыст Генельд пісаў свайму начальству: «...Дазорцаў пастаянна інфармаваў нас аб месцах дыслакацыі партызанскіх атрадаў на тэрыторыі горацкага раёна, аб асобах, якія мелі сувязь з партызанамі, аб падрыхтоўцы дыверсійных актаў і г.д. Восенню 1943 года Дазорцаву ўдалося выявіць дыслакацыю аднаго невялікага партызанскага атрада... Мы захапілі 20 раненых партызан, 9 чалавек з іх у той жа дзень павесілі ў горацкім парку, астатніх у прысутнасці насельніцтва расстралялі...»

Уцякаючы ад савецкай арміі, Дазорцаў апынуўся ў Польшчы. Тут ён таксама зрабіў многа злачынстваў. Пасля вайны выдаў сябе за ахвяру фашызму і ў 1948 годзе пераехаў з Заходняй Германіі ў Аўстралію.

Жыве там прыпяваючы, мае бізнес, мае дзяцей — сыноў і... чужую кроў на руках. Толькі сумлення не мае.

Вось яго адрас:
Sosnowski Peter, 9-gram. st., West Newport 3015, Australia.

Апр. (вр)

## МАЛА, АЛЕ ЦІКАВА

### І Ў ЖЫВЁЛЫ — НЕРВЫ

У адной рыбаводчай гаспадарцы спецыялісты доўга не маглі высветліць прычыну дрэннага росту і нават гібелі рыбы. Працяглыя даследаванні паказалі, што рыба пакутавала ад нервовага напружання, бо сажалкі знаходзіліся паблізу ад занадта люднага і шумнага месца. Прыйшлося разам з кормам даваць рыбе... валяр'янку. Гэта дапамагло водным гадаванцам супакоіцца, і неўзабаве рыба пачала нармальна прыбываць у вазе.

А вось новая праблема, і зноў на нервовай глебе. Аказалася, што ўтрыманне вялікай колькасці жывёлы, скажам, свіней, у адным месцы прыводзіць да зусім нечаканых ускладненняў. Шматгадовыя даследаванні прычын гібелі жывёл у буйных свінагадоўчых гаспадарках паказалі, што амаль палавіна смяротных выпадкаў выклікана адным — свінні нерваваліся. Сапраўды, жывёлы адштурхоўваюць адна адну ад кармушак, грызуцца, а тут яшчэ неасцярожныя перагрупіроўкі статку, грубае абыходжанне пры транспарціроўцы — усё гэта нервуе жывёлу і часта прыводзіць да яе раптоўнай гібелі.

Аказваецца, нават жывёла патрабуе тактоўнага абыходжання!

## КУТОК ГАСПАДЫНІ

## ШТО РАБІЦЬ, КАБ ДОБРА ЗВАРЫЦЬ

### ГРЫБНЫ СЕЗОН

### СМАЖАНЫЯ ГРЫБЫ

Смажыць можна баравікі, рыжыкі, маслякі, зялёнкі, казлякі. Грыбы трэба ачысціць, дакладна памыць, абсушыць, парэзаць на тоненькія палоскі, палажыць на разагрэты тлушч, дадаць цыбулю, пасаліць. Смажыць паўгадзіны, памешваючы. Рыжыкі, зялёнкі можна смажыць цэлыя.

### РЫЖЫКІ АБО ЗЯЛЁНКІ ПАНІРАВАНЫЯ

З рыжыкаў і зялёнак выбраць вялікія капелюшы грыбоў. Добра іх памыць, абрэзаць карэньчыкі. Кожны капялюш апарашыць мукой, пасаліць, памачаць у яечка і цёртую булку, падсмажыць. Падсмажаныя грыбы палажыць на бляшку і яшчэ ўставіць мінут на 10 у духоўку. Падаваць з бульбай і салатам з памідораў.

### КАТЛЕТЫ З СВЕЖЫХ ГРЫБОЎ

На адзін кілаграм розных грыбоў бярэм 10 дэкаў цыбулі, адну лыжку тлушчу, адну чэрствую булку, 2 яечкі, соль, цёртую булку, тлушч.

Памытыя і абсушаныя грыбы вельмі дробна парэзаць і абсмажыць на тлушчы разам з цыбуляй. Дадаць да грыбоў намочаную ў малацэ і выціснутую булку, сырыя яечкі і прыправы па смаку. З атрыманай масы рабіць невялікія круглыя катлеткі, мачаць іх у цёртую булку і смажыць. Падаваць з бульбай і салатам з памідораў, або памідорным соусам. Падрыхтаваную такім чынам грыбную масу можна таксама выкарыстаць у якасці фаршу да піражкоў.

### БЛІНЧЫКІ З ГРЫБАМІ

На дзве шклянкі мукі ўзяць адну шклянку малака, 2 яечкі, соль, каля 3/4 шклянкі вады, тлушч, паўкілаграма грыбоў, 2 цыбуліны, паўшклянкі смятаны, лыжку мукі, зялёную пятрушку.

З мукі, малака і яечак зрабіць цеста, развесці яго да адпаведнай гушчыні вадой, пасаліць, падсмажыць блінчыкі. Асушаныя грыбы памыць, дробна нарэзаць, падсмажыць разам з цыбуляй, пасаліць, стушыць. Да мяккіх ужо грыбоў дадаць смятану з мукой, закіпяціць. Пералажыць блінчыкі грыбамі, падсмажыць і гарачыя падаць з салатам з памідораў.

### ГАЛУБЦЫ З РЫСАМ І ГРЫБАМІ

На 10 лістоў капусты трэба ўзяць паўшклянкі рысу, паўкілаграма розных грыбоў, адно яечка, 2 цыбуліны, тлушч, адну шклянку працертых памідораў, шклянку смятаны, лыжку мукі, соль, перац, зеляніну.

Рыс варыць у вялікай колькасці вады мінут 10, адцадзіць яго. Ачышчаныя грыбы дробна нарэзаць, падсмажыць на тлушчы, дадаючы цыбулю. Вымяшаць рыс з грыбамі, дадаць яечка і прыправы. Лісты капусты абдаць варам, зрэзаць тоўстыя лісцяныя нервы. Загарнуць галубцы, палажыць іх у каструльку, падліць некалькі лыжак вады, тушыць каля паўгадзіны. Муку размяшаць са смятанай і працертымі памідорамі, заліць галубцы, закіпяціць. Галубцы пасыпаць зелянінай і падаваць з бульбай.

*Гаспадыня.*



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## БУДУЮЦЬ ДАРОГІ

З Белак у Трасцянку 3,5 кіламетра. На гэтым адрэзку звыш двух гадоў будавалася дарога. Зрабілі добрую (жвіроўку). Здавалася б толькі чакай, як пачне хадзіць пэкаэс. Але што зрабіць, калі будаўнікі (ці дарожныя ўлады Гайнаўкі?) каля самой Трасцянкі пакінулі каля 200 метраў непраезднай дарогі. Вясною сюды прыехаў штурхач і распіхнуў слой, пакінуўшы мяккі пясок. Так, што цяжка самаходу прайсці. Калі ўдасца, дык шафёр задаволены, а як машына засядзе — задаволены трактарысты з трасцянскага сельгасгуртка, бо, выцягваючы машыну, заробяць на піва.

Не ведаю, што перашкаджае дарожнаму аддзелу ў Гайнаўцы пабудаваць недаконччаную дарогу? Мо старэнькая хата былога млынара, якая стаіць пры дарозе? А мо спецыяльна так зрабілі, каб сяляне і шафёры не забывалі, як выглядала колішняя дарога?

*Ярош*

## § Кансультацыя ЮРЫСТА

ПЫТАННЕ: Я арандаваў ад дзяржавы ўчастак і пасадзіў на ім фруктовыя дрэвы. Цяпер дзяржава забірае ўчастак пад забудову, а прэзідыум адмаўляе мне заплаты за дрэвы.

АДКАЗ: Калі арандатар увёў улепшанні на арандаваным участку — уласнік участка можа, калі не было іншай умовы, альбо затрымаць улепшанні за заплатай вартасці ўлепшання ў моманце, калі ўчастак пераходзіць ва ўладанне ўласніка, або патрабаваць, каб арандатар забраў свае ўлепшанні і аддаў участак у такой форме, якую ён меў перад арэндай. У Вашым выпадку Вам прыслугоўвала б кампенсацыя за фруктовыя дрэвы толькі ў выпадку, калі б у часе заключэння ўмовы арэнды, прэзідыум забавязаўся заплаціць Вам пасля звароту ўчастку кампенсацыі за зробленыя Вамі выдаткі. У гэткім выпадку, калі б прэзідыум адмаўляў заплаты, можна было б даходзіць яе судом на працягу аднаго года, лічачы ад моманту, калі ўчастак пяройдзе ва ўладанне дзяржавы. Як правіла — дзяржава, заключаючы дагавор арэнды, гэткіх забавязанняў на сябе не прымае. Калі ўчастак прызначаны пад забудову, то прэзідыум не будзе зацікаўлены ў тым, каб затрымоўваць фруктовыя дрэвы, якія і так трэба будзе высячы.

## ПАРНАСік
### Чытальніцкая літсуполка на негарантаваных паях

### СУЧАСНЫЯ ЧАСТУШКІ

Што раз лепш для нас жывецца,
Братцы мілыя мае.
Толькі трэба прыглядзецца,
Які быт у нас ў сяле.

Трактар поле засявае,
Лугі косіць і арэ,
Дома тэлевізар грае —
Тры глядзіш на тапчане.

Хаты нізкі, саламяны
Аддавай хоць у музей.
Вокал новы, мураваны,
Не нацешыш, брат, вачэй.

Матацыкл стаў не навінай —
Хваціць пехатой хадзіць!
Частавата толькі міма
Сусед «таксай» праляціць.

Гасцей ў свята ты чакаеш,
Паз'язджаюцца яны:
Афіцэры, інжынеры,
Паглядзіш — свае сыны.

Калісь сам у гэтых летах
Каравы яшчэ пасвіў.
Ліха, брыдка прыадзеты,
Басяком тады хадзіў.

А цяпер — пройдзе па вёсцы
Дзеўка-лялька, нібы цвет.
Пасумуеш, пазайздросціш,
Каб цяпер мне дваццаць лет...

Сам па тратуары ходзіш,
Вёскі свае не пазнаць.
Думка думку толькі гоніць,
Год каб сотню дачакаць.

*Міхась Гаротны*

## ВАРТА ПЕРАНЯЦЬ ПРЫКЛАД

Давялося мне ўжо два разы быць у БССР і ездзіць цягнікамі. Характэрна, што ў кожным вагоне ёсць там свежая вада, кандуктары сочаць, каб яна з бачкоў не выходзіла і на большых станцыях напаўняюць іх. Пасажырам вялікая выгада. У нас я нямала ездзіў цягнікамі: далека і блізка. Колькі нацярпеўся ў цягніку без вады, колькі наслухаўся па гэтай прычыне лаянкі! А ці і ў нас нельга зрабіць, каб у вагонах былі бачкі з вадой? Ці гэта так ужо цяжка?

АС

## МБМ У КУРАШАВЕ

Некалькі год таму ўзнікла ў Курашаве МБМ. Ёсць там каля дваццаці трактараў, аднак у дзейнасці толькі дзесяць. А калі прыдзе жніво, на палях працуе шэсць трактараў, рэшта — сапсаваныя. Ёсць таксама камбайн «Вістуля». Малацяць ім толькі дыспазітары і іншыя працаўнікі МБМ. Калі прыдзе гаспадар прасіць камбайна ці трактара на жніво, дык з дыспазітарам трэба выпіць добрага паўлітра і далажыць яшчэ нешта, тады можа прыдзе.

Як жне трактарыст, дык гаспадар ставіць паўлітра. Трактарыст п'яны і далей не жне. А ў людзей збожжа сыплецца.

МБМ у Курашаве вялікая, але яе дзейнасць малая. І вось узнікае пытанне: ці і надалей будзе яна жаць за паўлітра? Ці нельга таксама наладзіць і даць у карыстанне больш машын? Ці нельга наладзіць у МБМ нейкай дысцыпліны?

**Коля з Курашава**




*Дарагое Сэрцайка!*

Жыву я на вёсцы. Скончыла СПР і працую на гаспадарцы. Працу гаспадара вельмі люблю і ніколі б не хацела быць і працаваць у горадзе. Але не аб гэта мне разыходзіцца. Ад двух год я «хадзіла» з Мішам, ды думала, што кахаю Мішу і выйду за яго замуж. Ён цяпер у войску, але неўзабаве вернецца, і піша ў пісьмах, што хацеў бы са мною жаніцца. А я вось, дарагое Сэрцайка, пазнаёмілася з іншым хлопцам, з чужой вёскі. І толькі цяпер ведаю, што ніколі не кахала Мішу. Гэты хлапец нічога не гаворыць аб жаніцьбе, але кажа, што мяне кахае, што я яму вельмі, вельмі падабаюся. А з Мішам пішу надалей, толькі пісьмы мае цяпер больш «халодныя». Шкада мне Мішу і таму не хачу яму пісаць праўды, бо ён мне з'яўляецца напэўна блізкай асобай, але не каханай, можа мне быць толькі добрым сябрам. Другі, з якім я цяпер сябрую, нічога аб Мішы не ведае.

Дарагое Сэрцайка, як мне паступіць, як усё наладзіць — скончыць з Мішам, а астацца пры Юрку (так называецца мой другі нарачоны)? Чакаю адказу, за які буду табе вельмі ўдзячна.

*Гражына*
*з Беластоцкага пав.*

Гражына! Час зрабіў сваё, па двухгадовай разлуцы (Міша ў арміі) ты пераканалася, што не кахаеш Мішу. Тады няма патрэбы ашукоўваць яго, маніць. Ты павінна напісаць Мішу пісьмо і далікатна выявіць і выясніць праўду. Пішаш, што шкада табе Мішы, як чалавека, як сябра, таму баішся сказаць праўду. Думаю, што горш пакрыўдзіш Мішу, калі не скажаш яму праўды, бо і так жа ж «шыла з мяшка вылезе», як гаворыць народная прымаўка. І гэта праўда. Калі Міша кахае цябе (а відаць так), напэўна будзе яму і прыкра, і крыўдна, і злосна. Усё нараз. Але няма іншага выхаду і канешне ты мусіш выявіць праўду.

А што датычыць хлапца Юркі, дык няма патрэбы яго інфармаваць пра гэта, найлепш увогуле аб Мішы і аб тваім сяброўстве з ім, не трэба ўспамінаць.

Жадаю ўсяго найлепшага
*Сэрцайка*

## ПАД АДНЫМ ДАХАМ

Прэзідыум ПРН у Бельску разбудаваў сваю сядзібу. У новым будынку (на здымку), які перадалі ў карыстанне 30 красавіка г. г., размясціліся ўсе сельскагаспадарчыя аддзелы рады. Цяпер сяляне могуць афармляць свае справы ў Бельску пад адным дахам.



*Фота В. Рудчык*

## ПАСЛЯЖНІЎНЫЯ РАЗВАЖАННІ

Як вядома, жніво ў гэтым годзе для сялян было даволі цяжкім і працавітым. Вялікае, палёгшае збожжа рабіла сваё. Часта і густа «касілка» не давала сабе рады, прыходзілася касіць касою, а нават і перапрошваць выкінуты за страху старэнькі серп. Вялікая спякота залівала потам вочы сялян, працуючых на палях ад ранку да ночы.

Яшчэ горш трэба было напрацавацца, калі прышлося сабраць скошанае збожжа з палёў. Вялікія і працяглыя дажджы неяк не давалі яму высахнуць. Трэба было па некалькі разоў развязваць і перасушваць змокнутыя снапы. Часта па адной фуры ў дзень сяляне даслоўна «кралі» ад дажджу высушанае збожжа.

Аднак цяжкае працавітае жніво ў гэтым годзе дало вялікі ўраджай. Але і тут было часта трохі клопату. Не для ўсіх сялян збожжа магло змясціцца ў гумно. Вымушаны яны былі прыступаць да малацьбы, калі яшчэ палавіна збожжа стаяла ў «дзесятках» на полі, а тады апратаўшы ад саломы гумно зноў звозіць збожжа.

Трэба тут адзначыць, што і малацьба не ўсюды прайшла так, каб кожны быў задаволены. Нашыя сельгасгурткі маюць па адной ці дзве малацілкі і не ў сілах былі ўсіх хутка абслужыць. Гэта зусім зразумела, але тут часта віну за няспраўную малацьбу паносяць самыя праўленні сельгасгурткоў. Некаторыя з іх трымаюцца закону, каб малацьба праходзіла ў вёсцы па чарзе ад суседа да суседа. Напэўна гэта і добра (каб залішне не валачыць малацілкі з пачатку ў канец вёскі і наадварот), але не зусім.

Як вядома, многія сяляне, якім не было ў сілах змалаціць хаця палавіну збожжа, бо гэта рабілі іншыя, вымушаны былі тое, што не ўвайшло ў гумно складаць за панадворкам. Шкада ж, каб мокла збожжа ў «дзесятках».

І вось тут, менавіта, трымацца закону, каб малаціць па чарзе, на маю думку, неабавязкова. Неабавязкова таму, што збожжа зложанае за панадворкам, паляжаўшы даўжэй, калі яшчэ праходзяць дажджы, марнуецца.

І вось тады вельмі ж крыўдна чалавеку, калі яго цяжкая праца марнуецца дзеля толькі «закону» праўлення сельгасгуртка.

Мне здаецца, што ў гэтым выпадку трэба трымацца закону, каб тым сялянам, у якіх зложанае збожжа за панадворкам, малаціць у першую чаргу!

Варта, каб праўленні сельгасгурткоў у будучыні аб гэтым падумалі, каб цяжкая сялянская праца больш не марнавалася!

*Юрка Скепка*
*Альхоўка каля Нараўкі*



Жыхары Горнага Броду Гайнаўскага павету возяць малако на пункт скупкі малака ў Войнаўцы фурманкамі.

*Фота Я. Цялушэцкага*

# КІНО

## ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Chudy i inni" (polski), 19—20. „Nie wspominać o przyczynie śmierci" (jugosł.), 21—22. „Jarzębina czerwona" (polski), 23—24.

„Kaszabe" (polski), „Kajtek i siedmiogłowy smok" (angl.), 20—24.

**Нарва**

„Uwaga żółw" (radz.), „Dzięcioł" (polski), 20—24.

„Godziny nadziei" (polski), „Spojrzenie na wrzesień" (polski), 20—24.

**Арэшкава**

„Cyrk straceńców" (USA), „I znów skaczę przez kałużę" (polski), 23—24.

## БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Lala" (włoski), „Tajemnica Kaliakry" (bułg.), 20—24.

## САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Słuchajcie bicia dzwonów" (jugosł.), 19—20. „Lew pręży się do skoku" (węgierski), 21—22. „Przygody psa Cywila" (polski), 23—24.

**Янаў**

„Umrzeć z miłości" (franc.), 20—24.

## СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Profesor zbrodni" (węgierski), 19—20. „Nie drażnić cioci Leontyny" (franc.), 21—22. „Pamiętnik szalonej gospodyni" (USA), 23—24.

**Мельнік**

„Płomień nad Adriatykiem" (jugosł.), 19—20. „Ostatni świadek" (polski), 21—22. „Trup w każdej szafie" (czeski), 23—24.

## ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Przygody psa Cywila" (polski), „Most" (jugosł.), 20—24.

**Новы Двор**

„Kapitan Korda" (czeski), „Ewakuacja" (polski), 20—24.

Ніва

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego.**

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23.

**BZGraf. Nakład 5.231 T-3**

